

# ВЯЛІКАЕ СВЯТА

7 лістапада—вялікае свята працоўных нашай краіны. Спаўняецца 21 год Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі. У гэты радасны дзень мы выйдзем сумесна з нашымі бацькамі, братамі і сёстрамі з чырвонымі сцягамі ў святочным убранні на плошчы і вуліцы гарадоў, вёсак святкаваць наша вялікае свята.

Нашы дзяды і бацькі ў кастрычніцкія дні 1917 года пайшлі ў апошні рашучы бой і вырвалі ўладу з рук памешчыкаў і капіталістаў. Паўстаўшых вялі на бойку вялікія правадыры Ленін і Сталін. Нашы бацькі змагаліся за тое, каб мы маглі расці граматнымі, здаровымі, вясёлымі, каб мы не ведалі галечы і голаду. Яны змагаліся за наша шчасце, і дабіліся яго.

Тое, аб чым марылі людзі на працягу многіх гадоў, ажыццявілася ў нашай краіне. Вялікая наша краіна! На ёй ніколі не заходзіць сонца. Радасна і весела жывуць народы на савецкай зямлі! Кожны з іх мае права на працу, асвету і адпачынак. Сонца чалавечага шчасця і радаснай працы ніколі не меркне на савецкай зямлі. Вялікі Сталін і партыя большэвікоў прывялі нашу краіну да вяршынь соцыялізма.

Партыя большэвікоў, наш любімы таварыш Сталін стварылі нам радаснае і шчаслівае дзяцінства. Мы атрымалі выдатныя школы, цудоўныя палацы, паркі, стадыёны. Мы—самыя шчаслівыя дзеці ў свеце, абкружаныя штодзённымі клопатамі партыі, радзімы і таварыша Сталіна.

У радасныя дні Кастрычніцкіх свят усе шчаслівыя дзеці нашай вялікай радзімы вітаюць вялікі савецкі народ і нашага дарагога правадыра і настаўніка любімага Сталіна з Кастрычніцкім святам.

Ніхто не адніме ў нас нашу радасць! І калі вораг толькі пасмее парушыць наш спакой,—увесь савецкі народ, па першаму закліку вялікага Сталіна стане груддзю на абарону дарагой савецкай радзімы!

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
КАСТРЫЧНІК 1938 № 10






# СЛАЎНЫ ЮБІЛЕЙ

Нашаму старшаму важатаму — Ленінска-Сталінскаму комсамолу споўнілася 29 кастрычніка гэтага года 20 год. Вялікія правадыры працоўных Ленін і Сталін арганізавалі і выпеставалі комсамол.

20 год назад—29 кастрычніка 1918 года ў Маскве сабраўся Першы Ўсерасійскі З'езд Комуністычнага Саюза Моладзі. З першых дзён стварэння комсамола тысячы комсамольцаў разам са сваімі старэйшымі братамі і сёстрамі пайшлі на фронт змагацца з ворагамі за сваё шчаслівае жыццё.

Не мала комсамольцаў загінула на франтах грамадзянскай вайны. Яны аддалі сваё жыццё за шчасце нашай радзімы, і памяць аб іх будзе вечна жыць у сэрцах працоўных нашай краіны.

У годы грамадзянскай вайны капіталісты хацелі задушыць нашу маладую Совецкую краіну. Яны хацелі знішчыць уладу советаў, якую з вінтоўкаю ў руках заваявалі нашы бацькі. Па закліку нашай партыі падняліся для абароны радзімы дарослыя рабочыя, сяляне і моладзь.

На фронт хацелі папасці ўсе комсамольцы. У часе адной мабілізацыі комсамол Масквы паслаў на фронт супроць генерала Юдзеніча 20 актыўных таварышоў. Усе яны селі ў адзін вагон і паехалі. У дарозе зрабілі пераклічку. Аказалася, што ў вагоне едуць не 20 комсамольцаў, а больш. Пасля праверкі высветлілася, што адным з „зайцаў“ на фронт ехаў 15-гадовы хлопчык Александр Косарэў, цяперашні сакратар ЦК ВЛКСМ.

За шматлікія баявыя заслугі Ленінскага комсамола ў годы грамадзянскай вайны наш урад у 1928 годзе ўзнагародзіў комсамол Ордэнам Чырвонага Сцягу.

Скончылася грамадзянская вайна. Нашы фабрыкі, заводы, шахты, чыгуначны транспарт былі разбураны. Дзесяткі і сотні тысяч комсамольцаў па закліку нашай партыі ўзяліся за аднаўленне заводаў і фабрык. Не было такога кутка ў Совецкім Саюзе, дзе-б не працавалі комсамольцы. Зараз маюцца ў нас вялікія заводы, якія пабудаваны цалкам моладдзю: Сталінградскі трактарны завод, Дняпроўская электрастанцыя, горад Комсамольск на Амуры і інш. Усюды комсамольцы паказвалі першы прыклад у разгортванні соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. За вялікі ўдзел комсамола ў соцыялістычным будаўніцтве наш урад узнагародзіў яго ў студзені 1931 г. другім ордэнам—Ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцягу.

Совецкі народ аказаў Ленінска-Сталінскаму комсамолу вялікае давер'е. Лепшых прадстаўнікоў нашай моладзі народ выбраў дэпутатамі ў Вярхоўны Совет СССР, у Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік.

Наша Совецкая моладзь горача дзякуе радзіме, партыі і вялікаму Сталіну за шчаслівае і радаснае жыццё. Гэта шчасце і радасць ніхто ніколі не адніме ў нас.




(Урывак з паэмы, прысвечанай 20-годдзю ВЛКСМ)

З табой, радзіма, мы раслі,
Спазналі радасць спраў вялізных.
З табой, радзіма, мы прышлі
У шчаслівы дзень соцыялізма.

Стаіш ты сёння, як уцёс,
Несакрушальны і магутны,
А навакол чуваць выццё
Драпежных хваль у моры мутным...

Ад лютых рук, ад прагных воч
Радзіма мае абарону—
Стаяць на варце дзень і ноч
Атрады арміі Чырвонай.

Мы ў флот і армію ідзем—
Мільёны патрыётаў мужных—
Са стрэльбаў нашых метка б'ем,
Гарматы, танкі нам паслушны.

Не страшны сэрцам маладым
Суровых штормаў гнеўны гоман.
Ні кроплі нашае вады
Не аддадуць яны нікому.

А над квітнеючай зямлёй
Пад неўміручым нашым сонцам
Знішчальнікаў крылаты строй
Вядуць пілоты-комсамольцы.

Пакорны ім увесь прастор—
Ляцяць па сталінскіх маршрутах,
І прыгаюць з-пад самых зор
Скрозь воблакі на парашутах...

Мы знаем—заўтра у паход!
На заклік нашых палкаводцаў
Увесь узнімецца народ,
І ў першых строях—комсамольцы.

На фашыстоўскі дзікі зброд
Сталёвай лавай танкі хлынуць,
І мёртвую пятлю пілот
На горла ворага накіне.

Пад баявым агнём зарніц
Нястомнай будзе наша сіла.
Радзіму будзем бараніць,
Як Фрунзе, Шчорс і Варашылаў.

Нам ключы ад шчасця-долі
Даў любімы бацька Сталін,
Нам юнацтва залатое
Даў вялікі чалавек.
Мы жывем у братняй дружбе,
Што мацней ад чыстай сталі,
Аб такім жыцці-свабодзе
Людзі марылі ўвесь век.

Арлянятамі ўзлятае
Наша племя баявое.
Нам, народу маладому,
Многа дадзена ў жыцці.
Мы сваёй краіне любай
Новых вырасцім герояў,
Каб сказаў вялікі Сталін—
— Комсамольцы—малайцы!

Каб пацiснуў моцна руку,
Ў вочы глянуў ясным ранкам
Самы блізкі, самы мудры,
Самы сонечны з людзей.
Нам імя яго калісьці
Пелі маткі ў калыханках,
І з ягоным слаўным імем
Мы ў партыю ідзем.

Родны, дарагі наш Сталін,
Ты, арол адважны, вучыш
Арлянят сваіх як трэба
Ворагаў праклятых біць.
Толькі клікні—і памчымся
Мы праз долы і праз кручы
Ў бой суровы, каб на-голаў
Непрыяцеляў разбіць.

Мы сыны твае і дочкі,
Мы сям'ёй адзінай сталі,
Незгараючай зарою
Асвятляй народам шлях
І жыві на свеце доўга,
Правадыр наш, родны Сталін,
Ты на шчасце ўсім працоўным,
А ўсім ворагам на страх!

*Эдзі Агняцвет, Пятрусь Броўка, Міхась Калачынскі, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка.*





24 верасня вядомыя ўсёй краіне адважныя лётчыцы-ордэнаносцы—Валенціна Грызадубава, Паліна Осіпенка, Марына Раскова вылецелі ў беспасадачны пералёт з Масквы на Далёкі Ўсход на самалёце „Родина“. 25 верасня самалёт прызямліўся ў раёне Комсамольска-на-Амуры, прабыўшы ў паветры 26 гадзін 29 мінут.

На здымку: экіпаж самалёта „Родина“ (злева направа) М. Раскова, П. Осіпенка і В. Грызадубава.

# ТРЫ АРЛІЦЫ

*ЯНКА КУПАЛА*

Ой, далёка заляцелі
Гордыя арліцы!
Даляцелі,—селі
Ў славе на зямліцы.

Тры арліцы—чараўніцы
Свет зачаравалі,
І дадому, з свята быццам,
Вяртаюцца ў хвале.

А ляцець было нялёгка:
Груган чорны пасвіў.
Шлях нязведаны шырока
Небяспекай слаўся.

Там, пад імі, нетры, пушчы,
Багнішчы, імшары;
А над імі чорнай гушчай
Воблакі і хмары.

Ды адважных не спужалі
Ні груган, ні ночка,—
Паляцелі вышай, далей
Совецкія дочкі.

Цераз віхры, навальніцы,
У глухіх прасторах,
Шляхі значылі арліцам
Крэмлёўскія зоры.

Ой, арліцы, добра лётаць
Сцежкамі такімі,
Дзе ляціць з тваім палётам
Сталінскае імя.

# МАЯ МАМА

Я вельмі люблю маму. Яна такая добрая, смелая. Нічога не баіцца. Калі мы жылі на Чорным моры, то вельмі часта ўплывалі на маленькай байдарцы далёка ў мора.

Мама навучыла мяне плаваць і ныраць. Сама-то яна як нырне, дык доўга-доўга не выплывае.

Мы стаім з бабуляй на беразе, а мама ўсё не паказваецца над вадой. Бабуля ўжо непакоіцца пачынае: „Не патанула-б яна. Нешта доўга няма“. А я смяюся. Колькі разоў яна ныраяа, і заўсёды ўдала.

Вось і ў апошні пералёт бабуля вельмі хвалявалася, калі аб самалёце нічога не было вядома. А я яе супакойвала і казала: „Колькі-ж разоў мама ўлятала, і заўсёды ўдала. І ў гэты раз павінна быць добра“. „Верна,—кажа бабуля,—нічога не павінна здарыцца з Марынай“.

Я зараз чакаю—не дачакаюся, калі вернецца мама. Праўда, яна заўсёды бывае занятая. Я кладуся рана спаць, а яна позна прыходзіць і ідзе на работу, калі я яшчэ сплю.

Перад самым адлётам я была з мамай у кабіне. Кабіна ўся шкляная, а ў ёй многа розных прыбораў. Я таксама вельмі хачу быць лётчыцай, як мама. Але яна мне сказала: „Паляціш са мной, калі вырасцеш“. І я ніяк не дачакаюся, калі гэта я вырасту.

*Таня Раскова.*



# Макарка Навак

*Апавяданне Я. КОЛАСА* *Рысункі А. ШАХРАЯ*

Макарку Наваку мінула ўсяго толькі дванаццаць гадоў, але шмат змен адбылося за гэты час. Макарка яшчэ помніць, як бацька яго мерна ступаў за плугам на сваім вузенькім шнуры, а маці адна хадзіла жаць на гэты шнур. За ёю ішоў і Макарка: не было з кім астацца яму дома. Шмат клопатаў было тады маці з Макаркам: яна спяшаецца на поле, а Макарка падыдзе і спыніцца. То ён згледзіць на дарозе цікавага жучка, то з травы ўзнімецца птушка, то праляціць прыгожы матылёк. Макарку хацелася на ўсё паглядзець і ўсё разгледзець, пра ўсё распытаць, каб адвесці кожнай з'яве яе належнае месца. Цяпер усё гэта здаецца яму далёкім і нават смешным, а тады справа прыймала часам і нечаканы абарот. Матка злавалася, крычала на Макарку, і Макарка справядліва адчуваў сябе пакрыўджаным няўвагаю маці да таго, што так моцна цікавіла і займала яго дзіцячыя думкі.



Так было яшчэ гадоў восем таму назад. Цяпер, калі зірнуць на іхняе поле, дык яго і не пазнаць: папрападалі межы, а з імі і вузкія шнуры разам з адзінокімі постацямі аратых і жней. Макарка часта любаваўся полем у яго новым выглядзе: такое-ж яно прасторнае! А па полю паважна поўзаюць трактары, адрэзваючы за сабой цэлы гурт скібаў пахучай зямлі, напаўняючы цішыню ўзлескаў магутным гоманам. А на трактарах сядзяць свае-ж хлопцы і спрытна водзяць паслушныя ім машыны. Макарка не раз пазіраў на трактарыстаў, на іх зухаўскую пасадку, на ссунутыя на патыліцу шапкі, на іх крэпкія, загарэлыя рукі і зайздросціў ім ад усяго сэрца і ў той-жа час ён ганарыўся імі. І што асабліва здзіўляла тут Макарку, дык гэта тое, што на адным трактары сядзела Марына Кунашка. Яе чырвоная хустачка, завязаная паўзверх русавых кудзер, здалёку кідалася ў вочы і нейкім асаблівым чынам вылучала яе постаць на гэтай шырокай зямлі. Яна напэўна спявала песню, бо ў яе быў добры голас, і яна любіла спяваць. Пазіраючы на гэтых жалезных коней і на трактарыстаў, Макарка цвёрда пастанавіў—навучыцца кіраваць трактарам, калі ён вырасце.

Змянілася не толькі поле—змены адбыліся і ў іх вёсцы. Павырасталі новыя будынкі: клуб, школа, больніца, дзіцячыя яслі і сады, а каля гэтых будынкаў раскінуліся прыгожыя дворыкі і пляцоўкі з чысценькімі роўнымі дарожкамі, з клумбамі, дзе раслі самыя рознастайныя кветкі. Тут можна было і пагуляць і пасядзець на лаўках-канапках пад ценем маладых каштанаў. І ўсё гэта прыемна кідалася ў вочы і вабіла да сябе,

выклікала пачуццё замілавання да гэтай новай зямлі, да людзей, што абнаўлялі яе і будавалі на ёй новы чалавечы ўтулак. А што асабліва падабалася Макарку, дык гэта шасейная дарога, збудаваная таксама за Макаркаву памяць. Яна спараджала ў яго сэрцы нейкае новае пачуццё—пачуццё далечыні і прастору. Як слаўна было прайсціся па гэтай дарозе! Колькі паваротак рабіла яна, пралёгшы між узгоркаў і сядзіб, перасекшы лясы і балоты! Часамі на цэлыя кілометры рассцілалася яна роўным, нібы выбеленым на сонцы ільняным палатном.

Як чаруюць і вабяць да сябе акуратненька і клапатліва пастаўленыя праз пэўную адлегласць лаўкі каля дарогі! Утульна стаяць яны на маленькіх расчышчаных пляцоўках у цяні дрэўцаў. Вось так, здаецца, і гавораць падарожніку: „Прысядзь, калі ласка! адпачні ды паразважай, браток!“ А колькі прыгожых кветнічкоў каля дарогі ды колькі на іх усялякіх кветак! А гэтыя белыя слупкі з прыбітымі на іх дошчачкамі, на якіх паказаны розныя дарожныя знакі і надпісы—назвы дарог, сядзіб, вёсак, гарадоў! А як прыгожа выведзены на адкосах дарогі дзяржаўныя гербы, розныя лозунгі, кожная літара якіх зложана з маленькіх, каменьчыкаў, кусочкаў цэглы, пафарбованых у розныя колеры! А колькі руху на гэтай дарозе! Колькі машын прабягае па ёй! Макарка любіў пазіраць, як імчацца машыны і часамі, так сабе, жартам, падымаў руку, каб падвезлі яго на машыне... Дык як-жа не любіць такую слаўную дарогу!

Многа думак спараджае яна ў Макаркавай галаве. І хочацца яму прайсці яе з канца ў канец. Праўда, адзін яе канец Макарку амаль увесь вядомы: гэты канец упіраецца ў прыгранічча, а Макарка жыве непадалёку ад граніцы. Калі ўзыйсці унь на той узгорак, што лявей вёскі, дык адтуль відаць другая краіна, над якою распасцірае крыллі белы панскі арол.

*(Працяг будзе)*





# Першыя словы

*Верш Л. КРУЦІЛАВА*

Над вішнёвым над садочкам
Жураўлі ляцяць,
Маці роднага сыночка
Вышла сустракаць.

Сын яе ў гэтым годзе
Ў першы клас пайшоў,
І яна сустрэць выходзіць
Вучняў-малышоў.

На сяле чуваць гамонка
Слаўнай дзетвары—
То ідзе яе Сымонка
І яго сябры.

Вось ён з маткаю у хату
Светлую ідзе
І пытаецца, дзе тата
І сястрычка дзе.

„Тата зараз на рабоце,
Прыдзе—будзеш рад,
А сястрычка па ахвоце
Выбегла ў сад“.

А Сымонку не сядзіцца,
Не маўчыць ні міг—
Хоча нечым пахваліцца,
Ды няма усіх.

Тварык шчасцем палымнее;
Маці так сказаў:
„Я пісаць ужо умею—
Грамату пазнаў“.

„Праўду кажаш? Малайчына!
Дык чаго-ж маўчаў!
Можа-б зараз мне, хлапчына,
Слова напісаў?“

Маці доўга не прасіла,
Ужо гатоў Сымон,—
Абмакнуў пяро ў чарніла
І садзіцца ён.

Мігам літары пасталі
Ў роўныя рады,
І чытае маці:
„СТАЛІН—
МУДРЫ ПРАВАДЫР“.

Маці сына прытуліла,
І не першы раз
Пацалункамі дарыла
Доўгі, доўгі час.

Над вішнёвым над садочкам
Жураўлі ляцяць,
Маці любага сыночка
Вывела гуляць.




# ПАДАРОЖЖА
# ПА МАЛОЙ БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНЦЫ

*Нарыс Я. МАЎРА* *Фота ШАЕВІЧА*

На карце вы яе не знойдзеце. Можа таму, што пабудавана яна ўсяго толькі два гады назад і яшчэ не ўключана ў агульную сетку чыгунак СССР; а можа таму, што яна ўсё-ж такі называецца Малой чыгункай.

Кожны грамадзянін можа без перашкоды зрабіць па ёй падарожжа ад ст. Радаснай да ст. Шчаслівай, ці наадварот. Білет трэба браць да ст. Гомель, а там ужо будзе перасадка на ст. Радасную Малой Беларускай чыгункі. У 1938 годзе па ёй перавезена пяцьдзесят тысяч пасажыраў, і праехалі ўсе яны разам—дваццаць тысяч кіламетраў. Вылічвайце самі, якую даўжыню мае магістраль.

Перад вакзалам вісіць ганаровая дошка, у адзнаку дваццацігоддзя Ленінска-Сталінскага комсамола. Стрэлачнік Р. А. Долін, намеснік начальніка дарогі І. Г. Фінкельштэйн, машыніст П. Ульяніцкі, дзяжурная па станцыі Л. Лазоўская ды яшчэ дзесятак імён складаюць авангард слаўнай чвэрцьтысячнай арміі чыгуначнікаў Малой Беларускай. Многія з іх атрымалі каштоўныя падарункі: гадзіннікі, фотаапараты, веласіпеды. Усе спецыяльнасці прадстаўлены на ганаровай дошцы. Усім аднолькавая пашана.

Адзін стрэлачнік, паважаны такі чалавек, у форме, з флажкамі і дудкай, нават расплакаўся, нібы дзіця якое:

— Не хачу быць стрэлачнікам! Хачу быць дзяжурным па станцыі! Я ўжо цэлы месяц прабыў стрэлачнікам.

Усёй адміністрацыі, на чале з начальнікам дарогі, прышлося ўгаварваць яго:

— Які ты будзеш дзяжурны па станцыі, калі не будзеш ведаць, як стрэлку перавесці? Трэба спачатку азнаёміцца з працай стрэлачніка, кандуктара, кантралёра, а потым ужо быць дзяжурным.

— А чаму Лізу адразу назначылі дзяжурнай па станцыі?—пахмура адказаў стрэлачнік.

Начальства зачмыхала носам.

— Мгм... Э-э... Бачыш, гэта было зроблена раней. А цяпер ужо кожны павінен пачынаць службу з прасцейшых пасад. Пачакай трошкі, перавядзем і цябе.



Мне пашанцавала: чарга ля касы невялікая—дзве дзяўчынкі па сем-восем гадоў ды прыезджы „турыст“. Гэта хлапчук за сёнешні дзень ужо восьмы раз купляе білет (які каштуе дзесяць капеек, а для дарослага—дваццаць).

У білетнай касе—касірша гадоў трынаццаці і маленечкая палахлівая „практыкантка“. Перад кожным рухам, азіраючыся на старэйшую, практыкантка закампасціравала і выдала мне білет. Я з ім адразу-ж пайшоў на перон, але дванаццацігадовы кантралёр сурова спыніў мяне:

— Нельга. Поезд яшчэ не прышоў.

Пачуўся далёкі грукат поезда, гудок паравоза, адказ стрэлачніка. Зазвінеў службовы тэлефон. На перон выбег дзяжурны па станцыі—дзяўчынка гадоў пятнаццаці, у форме, у чырвонай шапцы. Паравоз і два вагоны спыніліся ля платформы. З паравознай будкі высунуўся твар шаснаццацігадовага машыніста. (Тут недзе ёсць і дарослы машыніст—інструктар, які кіруе ўсёй справай, ды публіка яго не заўважае.)

Я зноў сунуўся на перон, і зноў мяне не пусціў непахісны перонны кантралёр:

— Пачакайце, дзядзя. Пасадкі яшчэ няма.

Прайшло яшчэ некалькі мінут, пакуль паравоз перагналі на другі канец поезда, перанеслі ліхтары, аформіліся ў дзяжурнага па станцыі—і тады толькі пусцілі нас у вагон.

Поезд крануўся. З кабінета начальніка станцыі выразна чуецца голас:

— Выклікаю станцыю Шчаслівую. Адпраўляю поезд № 12—14 гадзін 17 мінут...

Вось круты паварот. Далей—віадук праз дарогу, які замяніў ранейшы пераезд; тут стаіць будка, і астаўся яшчэ замацаваны шлагбаум. Паказалася станцыя Шчаслівая. Падняўся семафор.

Да нас падышлі праваднік і кантралёр. У кантралёра ў руках бліскучая машынка для прабівання білетаў, „сапраўдная“, якая ўжываецца і на вялікіх чыгунках.

У гэты момант у мяне неяк выляцеў з рук білет.

— Што рабіць?—кажу кантралёру.—Білет вываліўся праз акно.

Кантралёр і праваднік былі збянтэжаны больш за мяне. Пазіралі адзін на аднаго, паціскалі плячыма.

— Хіба ў вас ніколі такога выпадка не было?—пытаюся я.

— Ніколі.

— Ну, а што вы зрабілі-б, каб вам трапіўся заяц?

— Гэтага не было і быць не можа.

— Што-ж усё-такі будзеце рабіць са мною?

Але ў тым і бяда была, што яны зусім не ведалі, што са мною рабіць.

— Можа штрафаваць будзеце? — падказаў я.

— Ды трэба было-б узяць штраф,—адказаў кантралёр.

— Колькі?

— Мусіць... рублёў шэсць...—прамовіў праваднік.

— А чаму шэсць?

Кантралёры і самі гэтага не ведалі.

Поезд тым часам падышоў да станцыі Шчаслівая. Я вышаў з вагона і стаў чакаць вырашэння свайго лёсу.

Скоса пазіраючы на мяне, хлопцы пачалі ціханька раіцца паміж сабой. Пасля адзін з іх махнуў на мяне рукой і сказаў:

— Ну, ідзіце сабе.

— А як-жа ж са штрафам?..

— Ідзіце, ідзіце. У вас білет быў.

Падарожжа па Малой Беларускай скончылася. Я пайшоў да выхада. Ля білетнай касы зноў убачыў „туриста“: ён купляў білет дзевяты раз.

Каля пад'езда нікога не было. Толькі пад ганкам поркаўся ў пяску голы хлапчук у сініх трусіках. Убачыўшы дзядзьку з партфелем, ён палічыў мяне за начальства, вылез з-пад ганку і папрасіўся:

— Я хачу паступіць на чыгунку. Можна?

— На якую работу?

— Машыністам.

— Ну, не. Машыністам рана яшчэ.

— Тады куды-небудзь.

— Зайдзі, пагавары з начальствам чыгункі,—параіў я яму.

... Калі вам давядзецца праязджаць па Малой Беларускай чыгунцы, то яна будзе ўжо ў некалькі разоў даўжэйшая, чыгуначнікаў на ёй будзе каля тысячы чалавек, уся яе гаспадарка будзе значна перабудавана. Разам з іншымі малымі чыгункамі яна будзе падпарадкавана асобнаму Галоўнаму Упраўленню Дзіцячых Чыгунак СССР пры Народным Камісарыяце Шляхоў Зносін.






# Я МАРАК ЧЫРВОНЫ

*Верш Х. МАЛЬЦІНСКАГА*



Вітай мяне, вітай, сястра,
Я сёння самы шчасны—
На прызыве сказалі мне:
— Ў якую хочаш часць ты?

Праверыўшы старанна слух
І мускулы і вочы,
Мне доктар ветліва кіўнуў:
— Як дуб ты моцны, хлопча.

Вось дачакаўся я ў жыцці
Хвіліны урачыстай—
Ці кулямётчыкам мне быць,
Ці быць артылерыстам.

І я сказаў:—У флоце быць—
Мая старая мара.
І зайздрасць у таварышоў
З'явілася на тварах.

Вітай мяне, вітай, сястра,
Бо я марак чырвоны.
Я буду ўпэўнена стаяць
На варце абароны.

А ты, сястра, бяжы хутчэй,
Бяжы хутчэй да таты.
Скажы, што сын яго цяпер
Ў чырвоны флот прыняты.

А потым, любая сястра,
Схадзі яшчэ да маці,
Скажы, што будзе сын яе
Матросам на „Мараце".

А сам я хутка пабягу,
Скажу маёй каханай.
Вунь побач дом яе стаіць,
Вунь побач, дзе каштаны.

Вось я ўвайшоў. Яна глядзіць
Мне ў твар з усмешкай светлай.
— Скажы, кім будзеш? Не марудзь,—
Пытаецца так ветла.

І весткай радаснай яна
Захоплена і ўзнята.
Яе жаніх у флот ідзе—
Вось гэта будзе свята!

Пераклаў з яўрэйскай мовы
**А. Зарыцкі.**

# СЦЯГ

*Верш А. БАРТО*

Крэмлёўскія зоры на сонцы гараць
І з песняй па плошчы праходзіць атрад.
Я раптам знаёмы пабачыла сцяг,
Такі-ж самы быў у далёкіх краях.
Дзе пальмы стаяць ў Барселоне ў садах.
Сцяг бачыла я ў рэбят у руках
І з ім піонеры іспанскай зямлі
Байцоў праважалі, па плошчы ішлі.
І сцяг той агнём палыхаў баявым,
Іспанскія літары ззялі на ім.
Агнямі пажара ўвесь горад абнят,—
Байцоў выпраўляе... Праходзіць атрад.
Я раптам знаёмы пабачыла сцяг,
Такі-ж самы ззяе ў совецкіх краях;
Дзе клёны стаяць у прыгожых садах,
Сцяг бачыла ў нашых рэбят у руках.
І з ім піонеры Совецкай зямлі
На свята ўрачыста па плошчы ішлі,
І сцяг іх агнём палыхаў баявым
І літары рускія ззялі на ім.
Салют, піонеры, рэбяты Масквы!
Свой сцяг перадалі ў Іспанію вы.
Прыслаў у адказ здалёку атрад
Іспаніі сцяг ад іспанскіх рэбят.

**Пераклаў А. А.**



# ДОМ

*Апавяданне Я. ТАЙЦА*

За ваколіцай, на водшыбе, стаяла адзінокая хацінка. Хто там жыў? Стары Акім, жонка яго Куліна і рэбяты: Колька, Толька, Федзька і самы маленькі—Кірушка.

Жылі не бедна, ні багата, а як у песні пяецца:

Он не беден, не богат,
Полна горница ребят;
Все по лавочкам сидят,
Кашу маслену едят.

Праўда, кашу яны елі не масленую,—а пустую. Час тады быў галодны, ішла грамадзянская вайна; белыя ваявалі з чырвонымі.

Вось чырвоныя занялі гэтае сяло. А камандзір у іх—вядомы герой Катоўскі.

Багатыя мужыкі дрэнна сустрэлі чырвоных. Затое бедныя—вельмі добра. А не багатыя і не бедныя—не дрэнна і не добра.

Таксама і Акім. Рэбяты яго пабеглі на вуліцу, а ён застаўся дома, затаіўся, глядзіць у шчыліну.

Акім з трывогай аглянуўся. І хоць у хаце было цёмна, ён ясна бачыў усё сваё, прывычнае: вось ён, сундук, вось ён, дубовы ложак, вось яны, сем падушак... Ён вельмі баяўся за свой дом. Праўда, гэта было не тое, што дом, а лепш кажучы—хата. І не тое, што хата, а вярней за ўсё—хацінка. Але Акімку яна здавалася самым прыгожым домам на свеце. Бо ён сам яе ў маладыя годы збудаваў—па бервянцу, па колічку...

У дзверы пастукалі.

— Яны! Лёгкія на ўспаміне!—зашаптала Куліна,—не пускай іх, Акімушка, не пускай!

Але дзверы ўжо адчыніліся і ў хату ўваліліся рэбяты—Колька, Толька, Федзька і самы маленькі—Кірушка. І яшчэ суседскія—Пецька, Сцёпка, Моця, Луша...

Гэта-б усё нічога. Але сярод рэбят высіліся два катоўцы ў высокіх, бутэлькай шлемах, у зношаных шынелях, з вінтоўкамі, шашкамі, наганамі...

— Сюды ідзіце, чырвоныя армейцы, сюды, не бойцеся. Вунь яна наша хатачка,—шумелі рэбяты,—здымайце вінтоўкі, здымайце шашкі. А кулямётаў няма, максімкаў гэтых?



Катоўцы ўсміхаліся Акіму:

— Домік, праўда, слаўны ў цябе, таварыш!

Акіму вельмі спадабалася гэта слова „таварыш“, але ён баяўся: яны зойдуць, сядуць, а то і лягуць, памнуць падушкі, частавання будуць патрабаваць. І замест таго, каб сказаць: „Ды што вы стаіце, заходзьце!“,—ён стаў хлусіць:

— Які там слаўны, крыша наскрозь сапрэла, па ўсіх шчылінах вецер б‘е!

Куліна жаласліва забедавала:

— Немцы былі—усё жыта да зярна абчысцілі, пятлюраўцы былі—каня забралі, палякі былі...

Катовец зняў шлем, выцер ім твар, перабіў:

— Усё сяло ветла сустракае нас, а ў гэтым слаўным доме, значыць, элемент асобы. Відаць, з палякамі соладка жылося!

Акім пакасіўся на жонку:

— Ох і соладка-ж! Парсюка забралі, жонку маю ботамі ў жывот пхалі!—Ён разэлаваўся.

Суседскія рэбяты замітусіліся:

— К нам ідзіце, чырвоныя армейцы, к нам, тут-жа блізка!

Катовец надзеў шлем:

— Пойдзем, Пятроў! А табе, гаспадар, дзякуй за ласку!

Яны, стукнуўшы дзвярыма, пайшлі. У хаце стала ціха. Раптам Кірушка заплакаў:

— Бацька, дрэнны, чаму не пусціў!?

Стары раскрычаўся:

— Цыц! Мяне не вучыць! Галава як казан, а розуму—ні лыжкі! Цыц, элемент!

Тры дні адпачывалі катоўцы ў сялеі ўсе тры дні Акімавы рэбяты прападалі ў суседзяў. А Кірушка раз прыбег вечарам вясёлы, важны:

— Рэбяты, рэбяты, а я з кім гаварыў!



— З кім?

— З Катоўскім!

— Хлусі!

— Каб я лопнуў! Ён у Спірыдонавых стаіць. Я туды пайшоў і раптам—ён! з каня злазіць. А я не спалохаўся. Стаю вось так, гляджу. А ён гаворыць: „Катоўцам хочаш быць?". А я кажу: „Хачу!" Ён мяне тады ўзяў і на свайго каня пасадзіў! Во! А злазіць-то я сам! А ён гаворыць: „Вырасцеш, помні Катоўскага!"

Рэбяты з зайздрасцю глядзелі на Кірушку. А ён дастаў з-за пазухі нейкую пляшку з замежнымі літарамі і пахваліўся:

— Глядзіце, што я ў лесе знайшоў! Паляцкая напэўна!

Ад пляшкі пахла спіртам. Падышоў Акім, сунуўся барадой, павёў носам:

— Гэта што ў вас?

— Няма нічога!

Кірушка непрыкметна сунуў знаходку ў печ. Ляглі спаць. Сярод ночы Куліна ўскочыла:

— Ой, ратуйце, ратуйце!

Яна расштурхала спячых. Ратаваць дабро было позна. Прышлося, захапіўшы штаны і боты, скакаць у акно. Сухі, сасновы домік гарэў, як запалка.

— Ой, ліха нам, ой, ратуйце!

Збегся народ—хто ў штанах, хто ў сарочцы, хто ў чым. Куліну супакойвалі. А Кірушку хоць-бы што? Яму пажар спадабаўся. Вось-бы кожны дзень такія! І раптам ён убачыў маленькага палкавога трубача і Катоўскага.

Кірушка падбег горды:

— Гэта ў нас пажар, у нас!

Але камандзір не пазнаў „катоўца". Ён скамандваў:

— Дай трывогу!

Сігналіст узняў трубу. Прарэзлівыя гукі пакрылі ўсё: трэск пажара, шум натоўпу, плач Куліны...

І адразу-ж збегліся катоўцы. І адразу-ж яны, прывычна моўчкі, строіліся калонамі паўзводна. Старшыні нягучна камандвалі:

— Станавіся! Раўняйся! Смірна!

Камбрыг прайшоўся уздоўж радоў:

— Таварышы байцы, камандзіры і палітработнікі! Карацей кажучы! Калі мы ўсе, усім кватаруючым тут палком нашай брыгады, возьмемся за працу, я думаю, мы паставім



к вечару пагарэўшаму селяніну новы дом! Га!

— Трэба!—зашумелі байцы.

Акім з падпаленай барадой ляжаў на зямлі Катоўскі, абмахваючыся ад едкага дыму падышоў да яго:

— Таварыш, можаш паказаць на паперы якая твая хата была?

— Была?—Акім узняў галаву, збянтэжана паглядзеў на Катоўскага,—на паперы не магу, я так скажу!—Ён ускочыў:—Тут вось так былі сенцы. Тутачкі—чыстая палавіна. Вось так—кры... крылечка.—Ён заплакаў і стаў барадой выціраць вочы.—Я-ж сам яго зрубіў, па бервянцу...

Катоўскі ўзняўся на бугор:

— По-олк, слухай маю каманду! Вечарам—выступаем згодна загаду з штаба, а зараз—за работу! Тапары і пілы—у камандзіра сапёрнага ўзвода. Цвікі атрымайце ў абозе. Там-жа—пакля. Разыйдзіся!

Акім не разумеў—што такое яно робіцца?! Адзін узвод расчышчаў астаткі згарэўшага дома, другія пайшлі ў лес. Там, у ранішняй цішыні, застукалі тапары, заспявалі пілы. Часта, адна за адной, валіліся высокія сосны. На палкавых конях пад'язджалі яны да папялішча з чыстымі акуратнымі бярвеннямі. Тут іх падхоплівалі сотні рук і ўкладвалі адно на другое па ўсіх правілах плотніцкага майстэрства.

Камбрыг, абчэсваючы тлусты бок смалістага бервяна, пытаўся ў Акіма:

— Так, ці што, стары? Акно тут было, ці што?

Стары, разінуўшы рот, аслупянела глядзеў на тое, як з кожнай мінутай, быццам у казцы, вырастае новы дом. К абеду ўжо ўзняліся высокія—у семнаццаць ствалоў—сцены.

К вечару дом быў гатоў. Народ паваліў туды. Акім павольна ўзняўся па новых ступеньках. Яны соладка скрыпелі. Ён пакратаў сцены: можа, ён казачны, гэты ў адзін дзень пастаўлены дом, і вось-вось разбурыцца?!.

Але дом стаяў цвёрда, як усе сапраўдныя дамы. Няхай вокны без шыбаў, пол не фарбаваны, мэбліроўкі ніякай—гэта ўсё справа нажыўная.

На лугу заіграла труба. Байцы страсалі з сябе стружкі, апілкі, разбіралі вінтоўкі, строіліся. Акім і Куліна выскачылі з новага дома, пабеглі ўздоўж строю ўперад, да камандзіра.

Катоўскі ўжо сядзеў на шэрым сваім кані. Полк чакаў яго каманды.

— Бацюхна! Родны мой, ласкавы!—заплакала Куліна. Яна абняла і стала цалаваць запылены бот камандзіра.

Катоўскі сярдзіта бразнуў шпорай, адсунуўся:

— Што робіш, грамадзянка?!—ён пагладзіў яе па ўскудлачанай сівой галаве і працягнуў руку Акіму:—Жывіце. Калі-небудзь лепшы паставім, з мрамара... з калонамі... А пакуль...—Ён прыўзняўся ў стрэмях, павярнуўся:

— По-оолк, слухай маю каманду! Ша-а-гам...

І катоўцы пайшлі гнаць палякаў, ваяваць за вольную совецкую Украіну.

А дом, вядома, застаўся. Ён і зараз там стаіць—за ваколіцай, на водшыбе, сярод лугоў і палёў калгаса імя Катоўскага. Так што, выходзіць, не адзін Кірушка—усе ў сяле сталі катоўцамі, а Акім адзін з першых.





# ІВАСІК-ТАНКІСТ

*Вершы Н. ЗАБІЛА* *Рысункі Н. МАЛЕВІЧА*

Ой, шуміць, раве, грукоча,
Ломіць хвою, ёлку, клён—
То не зверы цёмнай ноччу
Мчацца лесам напралом.

То не зверы тут да ранку
Гаспадараць у ярах—
То гудуць у лесе танкі
На манеўрах, у лагерах!

А на дачы, недалёчка,
Дзе рака шуміць-пяе,
У дзіцячым у садочку
Ладзім гульні мы свае.

На дручках гарцуюць смела
Звенні коннікаў-байцоў,
І ў цэль трапляюць стрэлы
Варашылаўскіх стралкоў.

А сувязісты папраўляюць
Тэлефоны ля ракі,
А сапёры скрозь капаюць
Глыбачэзныя раўкі.

Быў Івасік інжынерам,
А цяпер танкістам стаў:
Ён з фанеры і паперы
Танк вялікі змайстраваў.



Танк праходзіць без дарогі
Між высокае травы,—
Нездарма ў Івася ногі
Ў пухірах ад крапівы.

Нездарма Івасік змок так,
Аж цячэ з яго цурком,
Цераз рэчку па балотах
Танк праходзіць напралом.



А сягоння 'шчэ уранку
Зашумела дзетвара:
— Гэй, сапраўдашныя танкі
Каля нашага двара!

Мы збягаем хутка з ганку.
— Танкі! Танкі! Паглядзі!
А наперадзе ля танкаў
Доўгавусы камандзір.

Мы к яму,
А ён смяецца.
— Вы з манеўраў?
З лагероў?

— А ў вас тут як жывецца
У дзетсадзе малышоў?

— Нам жывецца вельмі добра!
Мы таксама ўсе байцы:
Ёсць і коннікі й сапёры,
Куляметчыкі, стралкі!

— А ці ёсць у вас танкісты?
— Ёсць!
Івасік адказаў.
Падышоў і урачыста
Камандзіра прывітаў.



— Бач, танкіст які малы ты!—
Камандзір пагладзіў вус,—
Ну, што-ж, пройдзем да ракітаў,
Калі часам ты не трус!

Мы і вокам не міргнулі,
Як на танк Івася ўзлез!
Танкі тут як ірванулі
Па дарозе проста ў лес...

Хмара пылу узвілася,
Закруцілася, як вір.
А на першым—наш Івасік
І вясёлы камандзір.

Мы усе за ім гурбою
Паляцелі нацянькі.
Камандзір махнуў рукою:
—Ну, бывайце, малюкі!

Будзьце смелы і здаровы,
Навучыцеся страляць,
Каб заўжды былі гатовы
За радзіму пастаяць!

І цяпер у нас шторанку
Смех і гоман,—паглядзі:
Мы цяпер усе на танках,
А Івасік—камандзір!

**Пераклад з украінскага А. ЯКІМОВІЧА**





# Веставыя

*Урывак, які мы друкуем, узят з аповесці кітайскага рэвалюцыйнага пісьменніка-комуніста Эмі Сяо—„Маленькі герой Ван Фу". Аповесць прысвечана дзецям гераічнага кітайскага народа, які змагаецца супроць японскіх захватчыкаў. Галоўныя героі аповесці—два хлопчыкі: Ван Фу і Ян Лін, якія ўступілі ў атрад народнай арміі і дапамагаюць ёй у барацьбе.*

*Таварыш Эмі Сяо, аўтар гэтай аповесці, шырока вядомы ў Кітаі. Яго песні спяваюць байцы і ўвесь народ Кітая.*

... У вёсцы вельмі неспакойна. Ходзяць чуткі, як быццам цэлы полк пад камандай афіцэраў „адважнай" японскай арміі скора дабярэцца і да паселішча Ян.

Сумна звярнуўся да Ван Фу яго дзядзька Чжан:

— Ну, Ван Фу, дай мне на развітанне тваю ручку. Я павінен пайсці на фронт...

— Дзядзька Чжан, вазьмі мяне з сабой,— замаўчаў.

— Узяць цябе з сабой? А што ты зможаш там рабіць? Праўда, там ёсць шмат дзяцей, яны вельмі многа дапамагаюць Чырвонай арміі...*)

Дзядзька Чжан падумаў крыху, потым, апусціўшы на плечы Ван Фу рукі, сказаў:

— Ну, добра! Вазьму!

Ван Фу рашыў пабегчы дамоў і расказаць Ян Ліну і Ян Сю, але толькі ён дабег да штаба, як нечакана сустрэў Ян Ліна.

— Ян Лін! Я іду на фронт! Дзядзька Чжан бярэ мяне з сабой.

— Ты? Ідзеш?—ледзь не ўскрыкнуў Ян Лін.

— Так, іду. Ну, усяго добрага!

— Не... пачакай ты...—Ян Лін падумаў крыху і рашуча сказаў:—Я таксама іду! Дзе дзядзька Чжан?

* * *

Атрад народнай арміі ішоў па палях. Асцярожна абыходзіў налітыя золатам рысавыя ўчасткі.

Скора атрад падняўся на вяршыню вялікага ўзгорка. Ван Фу і Ян Лін ішлі з атрадам, ні на шаг не адступаючы ад дзядзькі Чжана. Ван Фу бачыў, што вельмі многія байцы не маюць вінтовак, у большасці ў руках старадаўнія паляўнічыя стрэльбы.

Пасля моцнага ліўня камандзір аддаў загад спыніцца. Далей ісці было небяспечна. Далёка-далёка раздаўся ўдар грома, такі,

---

*) Чырвоная армія Кітая пераіменавана ў 8-ю народна-рэволюцыйную армію.

што дзеці нават прыўскочылі. Потым усе пачулі выразны вінтовачны стрэл.

* * *

Чжан Чжэн-вэй хутка ўзабраўся на вяршыню ўзгорка. Ван Фу і Ян Лін пабеглі за ім. Паднёсшы да вачэй бінокль, Чжан Чжэн-вэй доўга-доўга глядзеў навакол. Потым ён стаў глядзець у адну кропку. Паклікаўшы да сябе бліжэй дзяцей, ён сказаў ім:

— Ідзіце, скажыце камандзіру, што за гарой вораг. Ён падыходзіць да нас.

Дзеці хутка кінуліся бегчы ўніз. У гэты час камандзір рабіў праверку. Убачыўшы дзяцей, ён спыніўся, выслухаў усё, што яны яму сказалі, і перадаў ім для паведамлення ўзводным камандзірам распараджэнне: „усяму атраду разбіцца на дзве часткі, рассеяцца па абодвух баках дарогі і залегчы ў кустах“ і дадаў:

— Скажыце ўсім: пакуль я не падам сігнала, стральбы не пачынаць! Ну, ідзіце!

Ван Фу і Ян Лін пабеглі да ўзводных камандзіраў.

Чым бліжэй набліжалася страляніна, тым яна ўсё больш і больш узмацнялася. Вораг вышаў на вялікую дарогу, паявіўшыся ў прасвеце, створаным двума гарамі. Байцы народнай арміі, не рухаючыся, ляжалі ў кустах; яны выразна чулі шагі салдат, тупат коней.

І раптам раздаўся кароткі загад. Байцы выскачылі з-за кустоў і гучна закрычалі:

— Бі! Бі! Смерць!.. Кідай зброю! Кідай!

Стральба і крыкі змяшаліся, нічога нельга было разабраць.

Вораг ніяк не разлічваў на такое нападзенне і пачаў разбягацца ў розныя бакі.. Частка салдат пабегла назад па дарозе, але наш камандзір з адным узводам кінуўся ў пагоню. Атрад пад камандай Чжан Чжэн-вэя загарадзіў выхад у горы, акружыўшы ворага цесным кальцом. Японскія салдаты кідалі на зямлю стрэльбы і падымалі рукі.

Хутка вярнуўся камандзір, прывёўшы з сабой групу новых палонных.

Цэлы полк пад камандай „доблесных„ афіцэраў японскай арміі быў разбіт.





На гэтым малюнку мастак намаляваў байкапісца І. А. Крылова, абкружанага героямі яго баек. Усяго на малюнку нарысавана дванаццаць звяроў. Адшукайце іх.



# Дзяўчынка, якая не хацела спаць

*Апавяданне А. ПЛАТНЕРА*

Раздзеўшыся, памыўшыся, лягла яна ў пасцель, але спаць ёй не хочацца.

— Мама, я хачу трошкі вады.

І праз мінуту:

— Мама, ці купіш мне чырвоную шапачку?

— Заўтра я табе куплю чырвоную шапачку, а цяпер спі, маё дзіцятка!

Праз акно праходзіць святло месяца. Пакой асветлен.

— Мама, я ўжо закрыла вочы, я ўжо сплю, спакойнай ночы.

— Спакойнай ночы, спі, спі...

Дзяўчынка ляжыць ціха, моцна закрыўшы вочы, але яе расніцы рухаюцца, нібы дрыжаць. Яна яшчэ не спіць. Павольна-павольна адкрывае яна вочы і бачыць, што ў пакоі зусім светла.

Навокал цішыня.

Яна высоўвае з-пад коўдры адну ручку, потым другую і забаўляецца з імі. Раптам бачыць яна на сцяне каля свайго ложка цені ад сваіх ручак. Цені танцуюць ад кожнага руху яе пальцаў: вось яны становяцца падобнымі да алоўка, да лыжачкі, вось з абодвух ручак ствараецца каза з рожкамі, а потым—і чалавечак.

Дзяўчынка хоча смяяцца. Ой, як-бы ёй хацелася крыкнуць—мэ-э-э! Але ціха і спакойна навакол. Яна-ж сама сказала маме, што ўжо закрыла вочы і спіць. Знадворку ясна свеціць месяц, у пакоі светла. Цяпер ужо бачыць дзяўчынка, што на ўсіх сценах і на столі танцуюць розныя цені. На вокнах вісяць доўгія гардзіны; месяц свеціць праз двор і на сценах адбываюцца цэлыя кінокарціны.

На вуліцы імчацца аўтамабілі, а ў пакоі на сценах іхнія цені. На вуліцы маршыруюць чырвонаармейцы, а на сцяне нібы рухаецца дэманстрацыя, такая вялікая, прыгожая: чырвонаармейцы на конях і на танках; ляцяць аэрапланы, спускаюцца парашуты.

— Калі я выраcту вялікай,—заўсёды гаворыць дзяўчынка,—я таксама буду лятаць на самалёце і прыгаць з парашутам.

Ад лёгкага ветрыку рухаюцца гардзіны на вокнах. Цені змяшаліся, зблыталіся, нібы танцуюць. У сярэдзіне пакоя вісіць лямпа з вялікім круглым абажурам. На сцяне ён нагадвае парашут. На століку, які знаходзіцца супроць ложка, стаяць лялькі. Цень адной лялькі падае пад абажур; гэта нагадвае маленькую дзяўчынку, якая прыгае з парашутам. Дзяўчынка патроху засынае, але вочы ў яе яшчэ адкрыты. Ад цішыні гудзе ў яе вушах і ёй здаецца, што гэта спеў.

На сцяне вісяць партрэты: Сталін сярод дзяцей і Варашылаў на кані. Дзяўчынка бачыць, што Сталін, усміхаючыся, ідзе з дзяцьмі прама да яе, а дзяўчынка, што прыгала з парашутам, распластала ручкі і таксама бяжыць да яе. Усе, усе спяшаюцца да яе!

Спеў становіцца гучнейшым. Ёй здаецца, што яна на дэманстрацыі ідзе разам з татам і мамай.

„Тата, глядзі! Мама, глядзі! Вось таварыш Сталін, вось таварыш Варашылаў". Усе дзеці ўсміхаюцца. Таварыш Сталін усміхаецца ёй. Ёй так прыемна, цёпла... Яна высоўвае ручкі яму насустрач, дзеці бяруць яе ў круг, яна качаецца.

Яна ляціць высока ў паветры, танцуе лятаючы, вочкі яе закрываюцца, і яна засынае.




# Наша Лілачка

*Апавяданне М. ЦЭЛЕША*

Лілачка—красуня. Ёй шэсць год, яна чысценькая, акуратная. Твар у яе прыемны, з рассыпанымі каля пераносіцы кропелькамі залатых вяснушак. Валасы—мяккія, чорныя, колцамі. А вочы цёмненькія, з ледзь прыкметным зялёным адценнем, і такія ласкавыя, добрыя!

У сваёй шэранькай сукеначцы яна падобна на птушачку пеначку—вясёлая, вёрткая, чысценькая!

Лілачка ў двары—для ўсіх забава! Прыемна глядзець на яе. Вось падыходзіць мама, ведучы за ручку Рыту.

— Ну, Лілачка! Мне няма часу, пагуляй-жа з Рытай!

Лілачка адказвае:

— Канечна, мама, Рытачка хварэла і я павінна за ёй добра глядзець!

Мама гладзіць дзяўчынку па чорных колцах. Дзяўчынка бярэ Рыту за ручку і вядзе да пясчанай пляцоўкі.

— Мы зробім домік, паселім у ім сваіх лялек! Добра, Рытачка?!

Рытачка глядзіць на пясочак, міргае доўгімі расніцамі. У руках у яе кавалачак пірага. Лілачка згортвае ў кучу пясочак, пракручвае дзірку, робіць комін. Над дзяўчынкамі шчабечуць вераб'і. Грэе сонца. Яго прамень пранік праз комін у домік, пазалаціў пясочак. Тонкія пальчыкі Лілачкі прасвечваюцца і становяцца ружова-празрыстымі.



— Вось і домік гатоў! А зараз напячэм пірагоў і накормім сваіх госцяў!

Раптам—крык Рытачкі. Лілачка ўскочыла з месца.

— Ах, ты, зладзюшка! Пайшоў прэч! Пайшоў прэч!

Пакуль Рытачка глядзела як сястрычка робіць домік, пеўнік Забіяка падкраўся ззаду і хацеў клюнуць пірага. Але прамахнуўся і папаў у руку дзяўчынцы. Лілачка прагнала Забіяку і дала ў рукі Рытачцы палачку.

— А ты, калі Забіяка пачне да цябе падкрадацца, махні на яго палачкай, і ён уцячэ!

Пакуль Лілачка ганялася за пеўнікам, пясчаны домік абваліўся. Яна зноў узялася за работу. Рытачцы ўжо надакучыла стаяць і глядзець. Яна капрызна сказала:

— Не трэба домік будаваць! Давай лепш абед варыць!

— Без доміка і абеда не згатуеш,—адказала Лілачка.

— А мама казала, што домікі робяць толькі хлопчыкі, а дзяўчынкі толькі абеды гатуюць...

— А наш папа—хлопчык, а ён у рэстаране абеды гатуе, а мама дзяўчынка, а яна домікі будуе на будове...

— У хаце пірагі пячэ!..

— Пірагі пячэ таму, што сёння яна не на рабоце!

Рыце было крыўдна, што яна больш нічым не можа пярэчыць сястрычцы. Нека-

торы час яна моўчкі стаяла, і глядзела на хрустальныя, прасвечаныя сонцам, пальчыкі Лілачкі. Потым рашуча сказала:

— Не трэба домік будаваць!—і топнула ножкай. Потым нагнулася, каб разбурыць домік.

— Ай, Рытка, я не буду з табой гуляць!—надзьмуўшы губкі, сказала Лілачка, і засланіла сваю будову, павярнуўшыся да Рытачкі спіной. Рыта ўзмахнула палачкай, якую яна трымала ў руках, і пачала ёю стукаць Лілачку. Лілачка ўскочыла на ногі, але не ўцякла,—яна плакала і глядзела на сястрычку слязлівымі зеленаватымі ласкавымі вачмі. А Рыта ўсё злосна стукала яе па плячах і па галоўцы палачкай. На крык прыбегла мама.

— А дзетачкі-ж вы мае! Што гэта вы б'ецеся?!—Яна адабрала палачку з рук Рыты. І Рыта таксама заплакала. Мама пацалавала яе і, глянуўшы на Лілачку, сказала.

— А ты чаго стаяла, Лілачка? Няхай-бы ты ўцякала!

— Добрая справа!—адказала, скрозь слёзы, выціраючы вочы, Лілачка.—А калі Рытачка паваліцца ды паб'ецца!..

## ЗАТРЫМАННЕ ШПІЁНА

*З поўначы і поўдня, з захада і ўсхода, днём і ноччу ахоўваюць непрыступныя граніцы нашай радзімы мужныя пагранічнікі.*

*Там за чартой граніцы — другі свет,— свет капіталістычны. Адтуль імкнуцца пранікнуць к нам, на совецкую зямлю, шпіёны і забойцы, каб перашкодзіць нашаму шчасліваму і радаснаму жыццю. Слаўныя пагранічнікі пільна ахоўваюць нашы граніцы.*

*На гэтым малюнку мастак Жыццянёў намаляваў момант затрымання шпіёна.*

*Прыдумайце, рэбяты, апавяданне на тэму аб нашых слаўных пагранічніках і прышліце нам у рэдакцыю „Іскры Ільіча“.*



# Жывы капялюш

*Апавяданне* **А. НОСАВА**

Адзін раз тата і мама пайшлі на работу, а Пеця і Валя сядзелі дома ў кутку і будавалі з кубікаў дом. Яны вылажылі сцены, зрабілі акно, а зверху палажылі дошчачку ад скрынкі. Домік атрымаўся добры! У акно можна было заглядваць і бачыць усё, што робіцца ўнутры.

— А хто будзе жыць у нашым доміку?— спытаўся Пеця.

— Няхай Маша жыве!—гаворыць Валя.

Маша—гэта Валіна лялька. Яна вельмі прыгожая. У яе розавыя шчочкі, вялікія блакітныя вочы і доўгія залацістыя валасы, якія можна заплятаць у косы.

Валя ўзяла Машу і пасадзіла ў домік. Лялька сядзела і глядзела ў акно. Вакол дома дзеці зрабілі з кубікаў парканчык і вароты з перакладзінкай. У двары каля дома паставілі цацкавы аўтамабіль.

— Гэта Маша паедзе на ім у госці,—сказала Валя.

Яна пасадзіла ляльку ў аўтамабіль і павезла яе ў госці.

Раптам Пеця прыдумаў:

— Давай пасодзім у домік Ваську! Калі Маша прыедзе, яна спалохаецца і скажа:— Ай! Хто гэта забраўся ў мой домік? А Васька выскачыць і скажа:—Гэта я! Котабармот.

— Ха-ха-ха!—засмяялася Валя. Гэтая гульня ёй вельмі спадабалася.

Васька—гэта беленькае кацянё. Васька спаў сабе моцна на дыване і нічога не падазраваў. Раптам яго схапілі і пасадзілі ў домік. Васька раззлаваўся—і скок!—у акно! А кубікі—бух! і рассыпаліся па падлозе. А Пеця схапіў з вешалкі татаў капялюш ды на Ваську.

— Вось табе домік! Гэты ўжо не разбурыцца!

Тут Васька заскакаў пад капялюшам, туды і сюды. Вылезці з-пад яго не можа, і капялюш пайшоў па пакоі, нібы жывы.

— Гэта чарапаха ходзіць!—крычаць рэбяты і абодвы рагочуць.

А капялюш раптам павярнуў і проста да іх. Дзеці спалохаліся, ды бягом ад яго. Залезлі на дыван і ногі пад сябе схавалі.

— Ідзі, павесь капялюш!—гаворыць Пеця.

— Не, ты ідзі,—гаворыць Валя,—я баюся!

А капялюш усё ходзіць і ходзіць. Заглянуў пад ложак, прайшоў пад сталом, спыніўся каля печкі і зноў ідзе к дывану,

— Гэта ён нас шукае!—гаворыць Пеця.

— Цішэй!—шэпча Валя,—а то пачуе!

Дзеці прыціснуліся адзін да аднаго і не ведаюць, што рабіць.

Раптам шчоўкнуў замок. Гэта тата прышоў з работы.

— Чаму капялюш на падлозе?—запытаўся ён і хацеў падняць, а ён ад яго уцякае.

— Гэта, што за жарты!—здзівіўся тата. Схапіў ён капялюш, а Васька як выскачыць! Сярдзіты, фыркае і жмурыцца ад святла. Тата нават адступіў назад ад нечаканасці.

— Ах, вы свавольнікі!—сказаў ён рэбятам і схаваў капялюш у шафу.



# ДЗЕЦІ АДНАГО ДОМА

У доме, дзе жыве хлопчык Вова, чатыры паверхі, і ва ўсіх паверхах жывуць у розных кватэрах таварышы гэтага хлопчыка.

Кватэры змешчаны адна пад другой.

Таварышы рашылі будзіць адзін другога, каб не спазніцца ў школу.

У першы школьны дзень Вова прачнуўся і пачуў крокі ў верхнім паверсе. Значыць, старшакласнікі ўжо ўсталі. Трэба і Вове ўставаць.

Ён тры разы топнуў нагой, каб разбудзіць свайго прыяцеля Сеню. Сеня хутка адказаў на стук, апрануўся, прыбег да Вовы ў кватэру і сказаў:

— Я таксама дакладна, як ты мяне, разбудзіў Пецю. Ён прачнуўся ўжо і адказаў мне стукам, што хутка зайдзе.

Праўда, праз мінуту прышоў Пеця, і сябры адправіліся ў школу.

Ці не напішыце вы нам, рэбяты, на якім паверсе жыве Вова?

# ПРЫГОДЫ ГУСЯ

*Вершы К. ЦІТОВА*




Вялік на сонцапёку
Быў гусіных дум размах.
Раптам гуркнула—і збоку
Ўзняўся невядомы птах.




Вось дык дзіва, вось дык справа.
Глянь, як лётае цікава!
Не палёт—а любата!
Захацелася і гусю
Ў паднябессі палятаць.




Раптам гэты птах крутнуўся.
На спіну перавярнуўся.
Наша гусь за ім таксама
Палящела ўверх нагамі.




Ахапіла бабку жахам,
Вочы страцілі зямлю,
Але ўсё-ткі гусь з размаху
Робіць „мёртвую пятлю“.




Птах зноў круціцца.—Ды што там,
Гусю вельмі павязло:
Смела кідаецца ў „штопар“.



„Эх, калі-б зірнула кошка“,—
Мысліць гусь,—„на гэты спорт,
Пазайздросціла-б...“
І—ў кошык.
Самалёт—ў аэрапорт.

Цана 30 кап.



# У КУЛЯМЁТА



Рэдактар І. МАСАРСКІ Афармленне Г. ІЗМАИЛАВА Адрас рэдакцыі: МЕНСК. ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна, Менск. 20.000 экз. Зак. № 3970. Уп. Галоўліта БССР № 4556.